НІНА МАЦЯШ

# ДВА БРАТЫ І СЯКЕРА

ПАВОДЛЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ КАЗКІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1975





МО ДАЎНО, А МО НЯДАЎНА —
Казкам-байкам што гады?—
У адной палескай вёсцы
Два жылі-былі браты.

І адзін з іх быў багаты,
Ненажэрлівы такі,
Замыкаў свой скарб вялікі
На чатыры аж замкі.

А ў другога толькі й скарбу
Усяго таго было,
Што старэнькая сякера
Пад залатанай палой.

Ён бандарыў і цясларыў,
Сек лазу на кашалі.
Бедны быў, ды пакланяўся
Толькі працы і зямлі.

З мазаля і хлеб, і песня.
А зямля вучыла быць
І нясквапным, і цярплівым
У нягодах у любых.



Тым і жыў.
Ды вось аднойчы,
Ходзячы каля ракі,
Незнарок сваю сякеру
Выпусціў бядак з рукі.

Падхапіць хацеў — ды дзе там:
Прагна плюхнула вада...
Закрычаў ён у адчаі:
— Ах ты, горкая бяда!

Як цяпер на свеце жыць мне
Без карміцелькі маёй?
Хоць ты кідайся самому
У вір гэты галавой...

Сеў дзяцюк і аж заплакаў,
Бо гарчэй ад усяго
Знаць было, што не паможа
Ні на волас брат яго.

Але што гэта?!
Ні ветру —
Хвалі ж, хвалі па вадзе...
Вынырае, падплывае
Да яго сівенькі дзед.

Позірк мяккі і прыветны,
Голас дабрынёй гучыць:
— Што з табою, чалавеча,
Мо змагу чым памагчы?



Расказаў сваё няшчасце,
А ў адказ дзядок:
— Чакай! —
Ціха, шчыра ён прамовіў
І нырнуў.
Праз міг:
— Трымай!

І сякеру залатую,
Вынырнуўшы, падае.
Бляск такі ад той сякеры,
Што аж глянуць не дае.

Але дзядзька:
— Не, такога
Зроду я не меў дабра...

Дастае тады другую
Дзед сякеру — з серабра.

Зіхаціць вада, збягае
Срэбнай хваляй з вастрыя.
Уздыхае бедалага:
— Не, і гэта не мая.





Трэці раз на дно рачное
Апускаецца стары
І жалезную сякеру
Падае:
— Твая? Бяры.
А на памяць аб сустрэчы
Забірай і гэтых дзве.

І кладзе да ног мужычых
Тры сякеры на траве...

* * *

Шмат сплыло ці мала часу,
Толькі і багаты брат
Нейк дачуўся пра дарункі
З золата і серабра.

А бядняк і не таіўся,
Што за дзіва з ім было.
Ад зайздрошчаў багацею
Аж дыханне заняло.





Вось бяжыць і ён на бераг
Тое самае ракі
І сякеру выпускае —
Быццам незнарок — з рукі.

Сам качаецца па доле,
Енчыць, бараду скубе:
— Ой, карміцелька-сякера,
Як пражыць мне без цябе?!

А рака ўсё неспакойней,
Хвалі, хвалі па вадзе...
Вынырае, падплывае
Да яго сівенькі дзед.

Позірк мяккі і прыветны,
Голас дабрынёй гучыць:
— Што з табою, чалавеча,
Мо змагу чым памагчы?

А пачуўшы, што за гора,
Моўчкі ён нырца дае
І — жалезную сякеру
Багацею падае.



Той аж замахаў рукамі:
— Што ты, гэта не мая!
Па такому недаломку
Не перажываў бы я!

Хмурыць бровы дзед — і
ў хвалі,—
Хвалі б'юцца ўсё круцей, —
І з'яўляецца з сякерай
Срэбра чыстага ў руцэ.

— Не мая, о не, і гэта
Не мая! — Багач у крык.—
У мяне была сякера
З золата... Дастань, стары!

І без слова трэцім разам
У бурлівай той вадзе
З залатой цяпер сякерай
Паказаўся сівы дзед.



— Вось цяпер мая! Ну што ты,
Не марудзь — давай хутчэй!
Скочыў скнара сам за ёю
У ваду і —
знік з вачэй.

І рака адразу стала
Ціхаплыннай, як была...



Сёння ж мне вось нашаптала,
Пра ўсё гэта расказала.
І легенд яшчэ нямала
Наша памяць зберагла.



**Мастак С. Нартава**

На белорусском языке
НИНА ИОСИФОВНА МАТЯШ
Два брата и топор
Для детей дошкольного возраста

Радактар А. С. Дзеружынскі. Мастацкі радактар В. П. Жыжэнка. Тэхнічны радактар З. Г. Сень. Карэктар Я. А. Бебель.
Здадзена ў набор 22/VIII 1974 г. Падп. да друку 7/V 1975 г. Тыраж 70.000 экз. Фармат 70×84¹/₁₆. Папера афс. № 2. Ум. друк. арк. 1,09. Ул.-выд. арк. 1,47. Зак. 1182.
Цана 11 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

М $\frac{70801\text{-}118}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 202-75

Бел 2
М 36